ТОЛЬКІ ТАК!

# СПРАВАВОДСТВА па-БЕЛАРУСКУ!

Сакавік-3, 2015

## У НУМАРЫ:

### Правы спажыўцоў – кожнаму!

*Змены ў закон “Аб абароне правоў спажыўцоў”*

- Пазіцыя дэпутата Юркевіча

- Пазіцыя памочніка дэпутата Бойкі






НАЦЫЯНАЛЬНЫ СХОД РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ
**ДЭПУТАТ**
ПАЛАТЫ ПРАДСТАЎНІКОЎ

НАЦИОНАЛЬНОЕ СОБРАНИЕ РЕСПУБЛИКИ БЕЛАРУСЬ
**ДЕПУТАТ**
ПАЛАТЫ ПРЕДСТАВИТЕЛЕЙ

25.03.2015 № 74

на №

Случаку І.У.

Паважаны Ігар Уладзіміравіч!

На падставе артыкула 25 Закона Рэспублікі Беларусь “Аб статусе дэпутата Палаты прадстаўнікоў, члена Савета Рэспублікі Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь” на Ваш зварот аб заканадаўчай ініцыятыве па пытаннях развіцця беларускай мовы, атрыманы мною 2 сакавіка 2015 года, паведамляю наступнае.

Дэпутат Палаты прадстаўнікоў ажыццяўляе свае паўнамоцтвы ў Парламенце на прафесійнай аснове. Асноўнымі формамі дзейнасці дэпутата Палаты прадстаўнікоў з'яўляюцца ўдзел у пасяджэннях Палаты прадстаўнікоў, у рабоце пастаянных камісій і іншых органаў палат.

Таксама паведамляю Вам, што я, з'яўляючыся дэпутатам Палаты прадстаўнікоў, выбраным па Пружанскай выбарчай акрузе № 9, уваходжу ў склад Пастаяннай камісіі Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь па аграрнай палітыцы. Пытанні кампетэнцыі камісіі не ў поўнай меры закранаюць сферу духоўнай спадчыны, культуры, у тым ліку развіцця беларускай мовы.

З гэтага пункта гледжання я з задавальненнем акажу садзейнічанне прапановам аб удасканаленні заканадаўства ў галіне аграпрамысловага комплексу і падтрымаю ва ўстаноўленым парадку канструктыўную ініцыятыву наконт гэтых пытанняў.

Што тычыцца Вашай просьбы аб справаздачы па выніках маёй дзейнасці, то паведамляю, што ў адпаведнасці з артыкулам 26 адзначанага Закона дэпутат Палаты прадстаўнікоў нясе адказнасць перад выбаршчыкамі, перад Палатай прадстаўнікоў і абавязаны перыядычна, але не радзей аднаго разу ў год рабіць справаздачу перад выбаршчыкамі акругі аб сваёй рабоце, ходзе выканання перадвыбарнай праграмы, рабоце Палаты прадстаўнікоў і тых яе органаў, у склад якіх ён выбраны або ўваходзіць па пасадзе.

Справаздача дэпутата можа быць праведзена таксама па патрабаванні не менш 300 выбаршчыкаў, якія пражываюць на тэрыторыі выбарчай акругі.

Інфармацыя аб справаздачы можа быць перададзена па мясцовым радыё і тэлебачанні, надрукавана ў мясцовых сродках масавай інфармацыі.

Паведамляю таксама, што прытрымліваюся таго пункту гледжання, калі выкарыстанне адначасова дзвюх дзяржаўных моў можа прывесці да значнага павелічэння аб'ёму дакументаабароту. Гэта, на мой погляд, з'яўляецца не зусім апраўданым.

З павагай,

Дэпутат Палаты прадстаўнікоў
Нацыянальнага сходу Рэспублікі
Беларусь — намеснік старшыні
Пастаяннай камісіі па аграрнай палітыцы А.І.Юркевіч

Случаку Ігару Уладзіміравічу

Шаноўны Ігар Уладзіміравіч!

Прысланыя Вамі прапановы, якія тычацца змяненняў у законе "Аб абароне правоў спажыўцоў" я перадам дэпутату Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь Анатолю Сцяпанавічу Бойка.

На мой жа погляд, рэдакцыя артыкулаў 7 і 8 Закона – разумная, як і тое, што інфамацыя для спажыўцоў павінна быць зразумелай.

З павагай

памочнік дэпутата
Валянціна Сянкевіч

20.03.2015 г.

M&S MEDIA

Уладальнікі выдання ***M&S Media***

Заснавальнік: *Францыск Піцерскі*
Галоўны рэдактар: *Алесь Пыхаў*
Карэктар: *Мікола Хмызняк*

246050, г. Гомель, вул. Пуліхава, 17,
рэдакцыя "Справаводства па-Беларуску"

Надрукавана на
Папяровай фабрыцы "ГумНо", г. Клінцы,
вул. Мажаеўская, 17б.

Тыраж: 250 асобнікаў.

Распаўсюджваецца безкаштоўна.




**Архіў газеты "Справаводства па-беларуску!" ў Беларускай інтэрнэт-бібліятэцы KAMUNIKAT:**
http://kamunikat.org/spravavodstva_pa_bielarusku.html
**Архіў УКантакце:** http://vk.com/docs?oid=-19441275
*Мы ў сацыяльных сетках:*
***vk.com:*** spravavodstva_pa_belarusku
***facebook.com:*** spravavodstva

M&S MEDIA